Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 12. Вільня, Пятніца, 6-га лютага 1925 г. Год I.

## Асадніцтва і абшарнікі.

Пасольскі Клюб „Пяст", які гуртуе пад камандай п. Вітаса польскіх сялян-кулакоў, падаў у Сойм сьпешную прапазіцыю, каб урад *узнавіў дзейнасьць закону* з 17 сьнежня 1920 году *аб польскім асадніцтве на „Крэсах"*. Адначасна эндэкі зрабілі заяву ў газэтах, што яны зусім *далучаюцца* да гэтага дамаганьня „пястоўцаў", толькі хочуць пагадзіць гэты закон з польскай канстытуцыяй, з якой ён разыходзіцца....

Гэта значыць, што дзьве найвялікшыя польскія партыі польскага Сойму занялі становішча, рэзка супярэчнае з абяцанкамі п. Тугутта вясьці парцэляцыю зямлі ў нашым краю так, каб *нешта* дасталася *і тутэйшаму насяленьню*.

Дужа цікава паставіць побач з гэтым напамінаньне абшарніцкага „Słowa", што ў часе выбараў у Сойм і Сэнат *„усе"* партыі, нават Страж Крэсова (Rady Ludowe), якая спарадзіла гэны няўдачлівы закон, крычалі на ўвесь сьве: вон вайсковае асадніцтва!" Цяпер-жа, паводле таго-ж „Słowa", нават найбольш крычаўшае і суліўшае нашым выбаршчыкам „Вызволене" сядзіць ціха, не пратэстуе, не выяўляе нават свайго становішча ў гэтай справе....

Затое, як гэта на першы пагляд ні дзіўна, востра выступілі проці кулацка-эндэцкіх мяркаваньняў... „нашы" паны-абшарнікі. Як людзі тутэйшыя, зьвязаныя з нашым краем векавымі традыцыямі, яны разумеюць, што сякое-такое ўлагоджаньне варожых адносінаў паміж беларускай вёскай і польскім дваром магчыма толькі *цаной здаваленьня дамаганьня нашага сялянства зямлі*—коштам дворных абшараў. І яны, як кажа іх газэта „Słowo", гатовы пазбыцца *часьці* сваей маемасьці—з тым, каб *на рэшце сядзець спакойна* і не баяцца ўжо „свайго" сялянства. Але палітыка польскага асадніцтва, бяручы дворную зямлю, аддае яе ня тутэйшаму сялянству, а чужому, прывезенаму з Польшчы элемэнту,—і гэта ня толькі не паляпшае адносінаў між вёскай і дваром, а робіць іх яшчэ горшымі, бо беларускае сялянства працягнае сваю руку іменна па пакінутую ў абшарнікаў *рэшту* зямлі. І вось 2 лютага да п. прэм'ера Грабскага зьвярнулася адумысная дэлегацыя „крэсавых" абшарнікаў, якая выступіла *проці вайсковага асадніцтва*.

Дэлегацыя пратэставала проці таго, што надаўчыя камісіі, ня гледзячы на соймавую пастанову аб прыпыненьні вайсковага асадніцтва, далей вызначаюць чарод забіраньня для асаднікаў дворных зямель.

П. Грабскі быццам абяцаў „прыхільна разглядзець" заявы абшарнікаў. Але—мала *хацець* нешта зрабіць: дзеля гэтага трэба мець *сілу*. А таке сілы у ўраду п. Грабскага—пры апазіцыі двух найдужэйшых соймавых клюбаў—трудна спадзявацца....

Але ў-ва ўсей гэтай справе для нас цікава нешта другое: іменна, выяўленьне супярэчнасьці паміж *клясавымі* інтарэсамі польскага абшарніцтва і—польскім нацыяналізмам, які ў нас разьвіваецца і расцьвітае за грошы тых-жа польскіх паноў, якія так варожа адносяцца да беларускае школы і так шчодра надзяляюць зямлёю чужыя нам польскія школы... І хто ведае, ці пачуцьцё сваей уласнай карысьці ня прымусіць „нашых" абшарнікаў шукаць новых дарог у справе ўлагоджаньня сваіх адносінаў з беларускай вёскай?!

Бяда толькі, што „розум" у іх прыходзе пераважна па часе.... Дэклямацыі валэйшаўскіх прадстаўнікоў аб „паляпшэньні настрояў беларускага насяленьня" ад адных толькі *абяцанак* п. Тугутта нешта ўжо лішне мала падобны да праўды!

## Закон аб арганізацыі беларускага школьніцтва

### з дня 31. I. 1924 г. ўхвалены Соймам 9. VII. 1924 г.

**Арт 3.** У пачаткавых урадавых школах, якія знаходзяцца ў гмінах, дзе ёсьць 25% насяленьня беларусаў, на ўрадава сцьверджанае жаданьне бацькоў 40 дзяцей — беларускай народнасьці, якія належаць да аднаго школьнага вокругу, забясьпечава ім будзе навука ў роднай матчынай мове.

Калі ў дадзеным школьным вокругу няма 40 дзяцей, бацькі якіх зажадалі-б навукі ў роднай мове беларускай, выкладовай мовай у школе ёсьць мова ўрадовая (польская). Калі-ж у дадзеным школьн. вокрузе побач з бацькамі, якія жадаюць для сваіх дзяцей навукі ў мове беларускай, ёсьць ня менш прынамсі як 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі ў мове ўрадовай, выкладаньне тады вядзецца ў дзьвёх мовах з тым, што палавіна лекцыяў вызначаецца на навуку ў мове беларускай; калі-ж у дадзеным вокрузе няма 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі ў мове ўрадовай, — **мовай выкладовай ёсьць мова беларуская.**

Істнуючыя ў адным вокрузе паасобныя школы з мовай выкладовай польскай і з мовай выкладовай беларускай будуць па магчымасьці злучваны ў адну школу супольную — дзьвёх-моўную.

**Арт. 4.** У школах пачаткавых 1, 2 і 3-клясовых, так прыватных, як і ўрадовых, з моваю выкладовою няпольскаю, абавязкава ёсьць навучаньне мовы ўрадовае, каб запэўніць веду гэтае мовы ў слове й пісьме, патрэбную для мэтаў практычных.

У школах пачаткавых 4, 5, 6 і 7-клясовых, так прыватных, як і ўрадовых, з моваю выкладовою няпольскаю абавязкава вядзецца папольску навучаньне мовы ўрадовае, польскай гісторыі і навукі аб сучаснай Польшчы так, каб была запэўнена веда іх дзеля пераходу вучняў у школы сярэднія агульна-эдукацыйныя з мовай выкладовай польскай, або дзьвёх-моўныя.

### Выясьненьне 3 арт.

**I. Дзе мусіць быць беларуская школа.**

Згодна з арт. 3 закона аб беларускіх школах з 31 ліпеня 1924 г., беларуская ўрадовая школа павінна быць адчынена ўладаю там, дзе сярод насяленьня ёсьць ня менш 25% (25 процантаў) беларусаў і дзе гэтага зажадаюць бацькі ня менш як ад 40 дзяцей у школьным веку.

Гэта адносіцца да Наваградзкага ваяводзтва (паветы: Валожынскі, Стаўпецкі, Лідзкі, Наваградзкі, Нясьвіжскі і Слонімскі), Палескага ваяводзтва (паветы: Лунінецкі, Пінскі, Косаўскі, Пружанскі, Драгічынскі, Кобрынскі, Столінскі і Берасьцейскі), Віленскага вокругу (паветы: Сьвянцянскі, Дзісьненскі, Дунілавіцкі, Вялейскі, Ашмянскі, Троцка-Віленскі і Брэслаўскі) і з Беластоцкага ваяводзтва (паветы: Гарадзенскі і Ваўкавыскі.

**Увага:** Закон гэты ня мае сілы ў паветах: Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім.

**2. Як урадова сцьвярджаецца жаданьне бацькоў.**

Кожын бацька, які жадае, каб яго дзіця вучылася ў беларускай школе, або матка (калі бацька памёр ці не выпаўняе бацькаўскай улады), або праўны апякун (калі бацька й матка ня жывуць ці не выпаўняюць бацькаўскай улады) падае свайму павятоваму Школьнаму Інспэктару асобна ад сябе дэклярацыю з уласнаручным подпісам, засьведчаным гмінаю, Старостам, Міравым Судзьдзею ці Натарыўсам. (Форма дэклярацыі глядзі ў газ. „Беларуская Доля" № 7).

**3. У якім выпадку адчыніцца беларуская ўрадовая школа.**

Калі ў школьным вокрузе (гэта значыць у адной вялікай вёсцы ці некалькіх малых вёсках) няма ніякай школы, і бацькі пададуць Школьнаму Інспэктару дэклярацыяў ня меньш, як на 40 вучняў, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей у беларускай школе, а адначасна зусім ня знойдзецца бацькоў, ці іх будзе меньш, як на 20 дзяцей, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей у польскай школе, то ўлада мусіць адчыніць у гэтым школьным вокрузе беларускую школу.

**4. У якім выпадку ўрадовая польская школаператворыцца ў беларускую.**

Калі ў вёсцы ўжо істнуе польская ўрадовая школа, а бацькі пададуць Школьнаму Інспэктару дэклярацыяў ня меньш як на 20 вучняў, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей у беларускай школе, то ўлада ў гэтай вёсцы мусіць паратварыць польскую школу ў беларускую.

**5. У якіх выпадках можа быць дзьвёх-моўная (двуязычная) школа, (польска-беларуская), у якой палова гадзін навукі выкладаюцца папольску, а палавіна пабеларуску.**

1. Калі ў тэй ці іншай вёсцы ўжо істнуе польская школа і ў гэтым школьным вокрузе бацькі пададуць Школьнаму Інспэктару дэклярацыяў ня менш, як на 40 вучняў, што жадаюць, каб у гэтай школе навукі выкладаліся ў беларускай мове, а адначасна знойдуцца бацькі, якія пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня менш, як на 20 вучняў, што жадаюць, каб іх дзеці вучыліся толькі папольску, то школа зробіцца дзьвёх-моўнаю.

2. Калі ў школьным вокрузе ўжо істнуе беларуская школа, а знойдуцца бацькі, якія пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня меньш як на 20 вучняў, каб у школе навукі выкладаліся выключна ў польскай мове, то школа пераробіцца ў дзьвёх-моўную, г. з. польска-беларускую.

3. Калі ў школьным вокрузе няма ніякай урадовай школы, і бацькі пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня меньш як на 40 вучняў, што жадаюць, каб была адчынена беларуская школа, а адначасна знойдуцца бацькі, якія пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня меньш як на 20 вучняў, што жадаюць, каб была адчынена польская школа,—то ўлада мусіць адчыніць дзьвёх-моўную школу г. з. польска-беларускую.

**6. У якім выпадку адчыніцца чыста польская школа.**

Калі ўлада адчыняе ўрадовую школу ў такой вёсцы, дзе няма яшчэ ніякай школы або ёсьць прыватная, а бацькі не паруpяцца, каб адчынілася беларуская школа й не пададуць аб гэтым Інспэктару дэклярацыяў ня меньш як на 40 вучняў, то адчыніцца польская школа.

**7. У якім выпадку застанецца і на далей ужо істнуючая польская школа.**

Калі ў школьным вокрузе ўжо істнуе польская школа, і ня знойдуцца бацькі, якія падалі-б Інспэктару дэклярацыяў ня меньш як на 40 вучняў, каб навука ў гэтай школе выкладалася пабеларуску, то ў гэтым вокрузе застанецца польская школа і надалей.

### Выясьненьне 4 арт.

**Як і дзеля чаго павінна выкладацца польская мова ў беларускіх школах.**

1. У беларускіх 1, 2 і 3-х аддзяловых школах польская мова выкладаецца як прадмет, каб вучні, скончыўшыя беларускую школу, маглі карыстацца з польскай мовы ў слове і пісьме для дзела практычных мэтаў, прыкладам: чытаць, пісаць і гаварыць.

2. У чыста беларускіх 4, 5, 6 і 7 аддзяловых школах польская мова выкладаецца як прадмет, а таксама выкладаюцца папольску гісторыя й геаграфія Польшчы, каб вучні былі падгатаваны для пераходу ў беларускія або польскія сярэднія школы, прыкладам: гімназіі, вучыцельскія сэмінарыі і іншыя.

**Цэнтральная Белар. Школьная Рада.**
*Вільня, Віленская 12—6.*

**БАЦЬКІ! падавайце Інспэктару, як можна, больш дэклярацыяў аб навучаньні вашых дзетак у беларускай мове.**

**Школьны век дзіцяці лічыцца ад 7 гадоў без 4-х месяцаў да 14 гадоў і 4-х месяцаў.**

**ГРАМАДЗЯНЕ! дамагайцеся аб ператвараньні польскіх школаў у беларускія.**

# Польска-гданскі канфлікт.

Справа гданскага канфлікту пакуль-што якбыццам „стаіць на мейсцы“. Чуткі, быццам Высокі Камісар Лігі Народаў у Гданску падаўся ў адстаўку, аказаліся непраўдзівымі. Наадварот: яму запрапанавана выдаць сваю апінію, на падставе якой будзе аканчальна вырашана гэтае пытаньне Лігай Народаў.

Нядаўна польскія сацыялісты езьдзілі ў Гданск, каб дагаварыцца з гданскімі сацыялістамі, і зрабілі ўмову, абяцуючы шанаваць дух і літэру істнуючых трактатаў і ўстрымлівацца ад усяго, што завастрае канфлікт, стараючыся аздаравіць адносіны паміж Польшчай і Гданскам. Але зьдзейсьніць гэтае пэпээсам у Сойме не ўдалося: іх рэзалюцыя, відаць, у духу вышэйпаданай „умовы“, як у Камісіі, таксама і ў Сойме, праваліся, а прыняты Соймам і Сэнатам ужо ведамыя нашым чытачом рэзалюцыі і наказы ўраду, заклікаючы апошні да чынных выступленьняў проці Гданску. Наадварот, Гданскі Сэнат спакойна і тактычна (можа і тактычна) адыйшоў у бок, пакінуўшы ўвесь канфлікт з Польшчай Камісару Лігі.

Польшча не ўбаялася гэтай зьмены „праціўніка“ і, як пісалі газэты, дамагаецца адстаўкі Камісара Лігі Мак-Донэля.

Але справа канфлікту перайшла ўжо ня толькі ў Лігу на яе рашэньне, але, можна сказаць, у новую фазу, бо за Высокім Камісарам Лігі, англійцам Мак-Донэлем, стаіць ня толькі Ліга, але—яшчэ бліжэй, а мо' і глыбей—**Англія**...

І кожны зразумее, што канфлікт Польшча-Гданск робіцца ўжо канфліктам паміж Польшчай і Англіяй. Адначасна, як гэта было заўсёды ў Вэрсальскія часы, за Польшчай зараз жа станула Францыя. І вось самую сутнасьць польска-гданскага спору: ці Гданск „ёсьць“, (або: **мае быць**) **сувэрэнным** (самастойным і незалежным), як хоча гэтага ён сам, ці вольнае места мае быць **пад пратэктаратам** Польшчы, як хоча гэтага апошняя,—гэту справу будуць вырашаць, змагаючыся, як заўсёды, Англія і Францыя.

Як заўсёды ў вэрсальскіх „прыяцеляў“, і ў гэтым выпадку інтарэсы і жаданьні ў іх — зусім супярэчныя. Гданск—настолькі важны міжнародавы стратэгічны пункт, **пануючы над ус'м Балтыцкім морам**—(а ў значнай меры і—над усімі Балтыцкімі дзяржавамі), націскаючы ў пэўнай меры і на ССРР,—што для вялікай дзяржавы, **якая мае флёт і вядзе сусьветную** (імпэрыялістычную) палітыку, мець яго пад сваім уплывам вельмі важна. Справа варта барацьбы. Калі Англія валадае ці мае пад сваім уплывам Суэц, Гібралтар, Сінгапур ці Канстантынопаль, дык тыя-ж матывы змушаюць яе да ўтрыманьня пад сваім уплывам і Гданска... Як спаміж 2-х канкурэнтаў на Канстантынопаль—Расеі і Турцыі, ці Турцыі і Грэцыі,—Англія заўсёды падтрымлівала слабейшага, таксама і ў справе Гданска для Англіі лепш мець дзела з **сувэрэнным** „Вольным Местам Данцыгам“, чым з моцнай і не падлягаючай яе ўплывам Польшчай, на **якую Англія можа націскаць толькі з Гданска**. Францускі аргумант, што Англія ў Гданску падтрымае справу нямецкіх нацыяналістаў, на Англію ў сучасны мамэнт уплыву ня мае: Нямеччына ня мае флёту, дык і ня страшна для Англіі.

Міма волі пачынаеш раўнаваць гэту справу з справай Канстантынопаля. У спрэчцы аб Канстантынопаль Англія падтрымлівала Грэцыю, а Турцыю—Францыя. Ды як пачалі абодва лагеры „інтэрпрэтаваць“ (тлумачыць) трактаты ў 1922 г., дык скончылася тым, што ўзгарэлася грэцка-турэцкая вайна, у якой перамагла Турцыя.

Здавалася-б, вайна паміж Польшчай і Гданскам—яшчэ лягчэйшая. Але—кожны, а першая—Польшча, разумее, што вайна Польшчы з Гданскам — гэта ня толькі вайна паміж імі аднымі! Толькі разумець—адно, а быць папіханым „рокам“ ці „ветрам“ падзей—зусім што іншае... А „вецер“ гэты пачаў дзьмуць значна мацней! **М.**

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Адклад паседжаньня Сойму.

Важнае паседжаньне Сойму, на якім будзе разглядацца, паміж іншым, законапраект аб прымусовым вывазе маемасьці і насяленьня ў прыпадку пагрозы вайной, пераносіцца ізноў з гэтае пятніцы на аўторак таго тыдня.

### Прыезд Прэзыдэнта Францыі (?)

Француская газэта „Echo de Paris“ падала вестку аб праектаваным прыезьдзе Францускага Прэзыдэнта ў Варшаву—праз Гданск...

Нямецкія газэты вельмі зацікаўлены (!) гэтай весткай, але пішуць, што, можа, прыезд будзе яшчэ ня ў так хуткім часе.

### Арышты камуністаў у Лодзі.

Паліцыя арыштавала ў Лодзі групу камуністычнай моладзі, якая ў сваім часе (?) рабіла антыдзяржаўныя дэманстрацыі. (ПАТ).

## Заграніцай.

### Фінансы С.С.Р.Р.

Народны Камісарыят Фінансаў, лічучы, што новая валюта ў ССРР ужо даволі ўзмацавалася, скасаваў усе аграніченьні для прыватных асоб у таргоўлі чужаземнымі валютамі, чужаземным золатам і срэбрам у манэтах і зьлітках, ды ўсялякімі плацельнымі забавязаньнямі.

Праектуецца паніжэньне сельска-гаспадарскага налогу такім шляхам, каб малазямельныя гаспадаркі былі зусім звольнены ад падатку. Гэтакіх гаспадарак налічаецца каля 6 мільёнаў.

У Парыжу мае быць створаны француска-расейскі банк. Палову капіталу зложаць францускія капіталісты.

### Урадовы крызіс у Літве.

Як ведама, сучасны ўрад у Літве складаецца выключна з прадстаўнікоў аднэй партыі—хрысьціянскіх дэмакратаў, якія, маючы, хаця і слабую, большасьць у Сойме, ужо штось каля паўгоду, як адмовіліся ад усякай коаліцыі з іншымі партыямі.

Пасьля апошняга зьезду пануючае партыі, на якім верх узяло правае крыло яе, яна пастанавіла выпіхнуць сваю партыйную „лявіцу“ з ураду. У мысьль рэзалюцыяў зьезду быў абвешчаны лёзунг больш „моцнай рукі“, хаця, здаецца, пакуль-што толькі ў унутраных справах (мо' якраз адначасна з больш „слабым курсам“ — у справах вонкавай палітыкі, а перад усім у справе польска-літоўскага спору). У выніку гэтага прэм'ер Тумэнас выйшаў у адстаўку, уся „лявіца“ партыі адайшла зусім у бок, а „правіца“, пасьля перабудовы амаль не таго-ж самага асабовага складу габінэту, дайшла да „паразуменьня“ паміж сабой і прэзыдэнтам рэспублікі, і апошні даручыў прэм'ерства быламу міністру фінансаў таго-ж ураду—кс. Петрулісу.

### Голас маршалка Фоша.

У гутарцы з карэспандэнтам вэнгерскай газэты маршалак Фош — злы „дух“ сучаснай „азброенай да зубоў“ Францыі, заявіў, што — „забясьпечаньне міру—галоўная задача Францыі і ўсіх народаў, а мір можа быць толькі гарантаваны — у рамках пасьля военных трактатаў“... Бо, як толькі ў іх зьмяніць хаця адну

# Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

**№ 157**—да п. Міністра Скарбу—у справе **неразмернага абцяжэньня падаткамі** вёскі Гародчына, Нарэўскае гм., Бельскага пав.

З прычыны ваенных апэрацыяў насяленьне вёскі Гародчына, Нарэўскае гм., Бельскага пав., было прымушана пакінуць свае сялібы і правясьці некалькі гадоў у бадзяньні. Вярнуўшыся да краю, знайшло свае гаспадаркі, зьнішчаныя да-тла. Адсутнасьць дзяржаўнае дапамогі наразіла ўсіх на нэндзу, голад і хваробы. Хаця мінула гэтулькі год ад часу заканчэньня вайны, гаспадаркі дагэтуль не адбудаваны; нястача інвэнтара і матэрыяльных засобаў не дае нармальна вырабляць зямлю; зямля дагэтуль не дае йшчэ і 50% таго, што давала да вайны.

Ня гледзячы на гэта, у 1924 годзе на вёску Гародчыну, якая мае 648 маргоў, наложаны гэткія падаткі:

1. Падатак гмінны (1923 г.)—5 зл.; 2. падатак гмінны—33,48 зл.; 3. пад. бальнічны—191,20 зл.; 4. 1 рата грунтов., падатку—547,20 зл.; 5. страхоўка—235,20 зл.; 6. падатак ад жывёлы—111, зл.; 7. падатак грунтовы гмінны—444, зл.; 8. 2 рата грунт. пад.—547,20 зл.; 9. дарожная аплата—176,80 зл.; 10. 1 рата маёнтков. пад.—404,98 зл.; 11. 2 рата маёнтков. пад.—809,97 зл. Разам — 3.506,83 зл., што дае па 5,41 зл. з марга зямлі. Гэтая ступень ападаткаваньня павялічываецца тым, што з 75 маргоў зямлі, з прычыны адсутнасьці гаспадароў, карыстаюць сяляне другіх вёсак. Апрача гэтых падаткаў істнуюць яшчэ натуральныя павіннасьці, як падводы для ўрадоўцаў і праўка дарог.

Што датычыцца спосабу спагону гэтых падаткаў, дык ён зусім пазбаўлены падставы справядлівасьці; падатковыя ўлады зусім ня лічацца з аплатнай здольнасьцяй падатнікаў, аблічаньне падаткаў і зьбіраньне фактычных даных адбываецца бяз ведама падатнікаў і бяз іх учасьця.

„Провізорныя“ даныя дзеля маёнтковага падатку зьбіраліся гэтак:

У лютым 1924 году ў вёску прыехаў п. Оклота, памоцнік сэкрэтара гміны, і, сабраўшы ўсіх сялян, пачаў пытацца аб стане заможнасьці падатнікаў. Даныя, якія падавалі сяляне, ня браліся пад увагу, а п. Оклота запісываў заявы, як яму спадабалася, і аб іх падатнікі даведаліся толькі тады, як прышлі наказы плаціць. Дык ня дзіва, што падаткі аказаліся надта вялікія, тым балей, што маргі былі палічаны за гэктары; падаткі гэтыя выпалі ў адносна шмат вялікшым разьмеры, чым ападаткаваньне другіх суседніх вёсак. Да вайны на адзін вучастак выпадала каля 8—5 рублёў падаткаў у год, цяпер-жа яны абложаны падаткамі на суму больш за 100 злотых.

Ня маючы ніякае магчымасьці аплаціць усе падаткі, сяляне 31.X. 1924 г. і 15.XI. 24 г. зложылі паданьні да Скарбовага Ураду ў Бельску Падляскім, просячы панізіць клясу зямлі і зьменшыць падаткі, але ніякага адказу не дасталі, а ў інспэктараце ім сказалі, што гміна падала даныя ў гэктарах замест у маргох, дык скарбовы ўрад і вызначыў ім гэткія высокія падаткі, — што цяпер падаткі трэба канешна заплаціць, а адказ на пададзеныя паданьні яны дастануць у 1925 годзе. Сьледам за гэтым адказам прыехаў на месца сэквэстратар з 2 паліцыянтамі і зрабіў сэквэстрацыю сялянскае маемасьці. Паміж іншым, засэквэстраваны гэткія рэчы і інвэнтар: 1) карова—у Мірона Хіліманюка, 2) плуг і тры гавечкі—у Міхала Пашкоўскага, 3) 2 плугі, 4 спадніцы і 11 арш. палатна—у Тамаша Васілюка, 4) сьвіньня — у Базыля Мартынюка, 5) адзіная рабочая кабыла — у Яхіма Трафімюка, 6) 2 гавечкі і парася—у Макс. Гапанюка.

Засэквэстраваныя хатнія рэчы забралі з сабой паліцыянты, плугі адаслалі ў гміну, а жывы інвэнтар загадалі даставіць на 30.XII ў гміну на ліцытацыю.

У сувязі з гэтым сяляне вёскі Гародчына дамагаюцца: 1) залічэньня іх зямлі — пяскоў да ніжэйшае клясы, паводле вартасьці; 2) правядзеньня рэвізіі ападаткаваньня вёскі і зьмяншэньня падаткаў, 3) звальненьня ад маёнтковага падатку, якога яны ня ў сілах заплаціць, 4) звароту забраных рэчаў і інвэнтара, 5) адмены ліцытацыі жывога інвэнтара.

Бяручы пад увагу вышэйшыя даныя, інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра: ці маніцца ўразжа загадаць падлягаючым органам прыхільна вырашыць справу дамаганьняў жыхароў вёскі Гародчына аб ападаткаваньні і сэквэстрацыі?

Варшава, 20 студзеня 1925 г.

**№ 158**—да п. Міністра Рэлігійных Вызнаньняў і Публічнае Асьветы ў справе **невыкананьня языковага ўставу.**

Ніжэй падаем зьмест прыгавору жыхароў вёсак Малькавічы, Сінявічы і Каралі, Пяскоўскае гміны, Ваўкавыскага пав.:

„Пратакол 1924 г., верасьня 20 дня. Мы ніжэйпадпісаныя жыхары вёсак Малькавічы, Сінявічы і Каралі, Пяскоўскае гміны, Ваўкавыскага пав., і бацькі дзяцей школьнага веку, сабраўшыся на сход пад старшынствам заступніка солтыса вёскі Малькавічы Канстантына Стэльмаха, зрабілі гэткі прыгавор у справе школы:

„Бяручы пад увагу, што ўжо дзевяць гадоў мінула ад расейскіх часоў, як няма ў нас школы, дзеля чаго дзеці нашыя растуць, як дзікі ў лесе, бяз ніякае адукацыі і ўзгадаваньня, ды ня вучацца нічога добрага,—мы адчуваем патрэбу адкрыцьця ў в. Малькавічах народнае школы, а як мы—беларусы, і наша матчына мова—беларуская, дык просім пастаўленую над намі ўладу, на падставе §§ 3 і 4 ўставу аб арганізацыі школаў, адчыніць у в. Малькавічах з пачаткам 1924-25 школьнага году ўрадовую народную 4-клясовую школу з беларускай выкладовай мовай. Школьны будынак, пабудаваны йшчэ за расейскіх часоў, стаіць пусты, і ў ім трэ' зрабіць невялікі рамонт, на што, як нам ведама, гміна вызначыла адпаведныя сумы. За кандыдата на кіраўніка школы падаем грамадзяніна вёскі Пацэвічы, нашае гміны, Апанаса Грыца, як выкваліфікаванага настаўніка з 18 гадовай практыкай у народных школах, ды яго-ж назначаем нашым паўнамоцнікам у справе стараньня аб адкрыцьце школы“.

Ня гледзячы на тое, што пратакол быў перасланы школьнаму інспэктару і зроблены ўсе фармальнасьці, беларуская школа дагэтуль не адчынена.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра: ці маніцца ён нарэшце прыступіць да выпаўненьня языковага ўставу і ўраз-жа адчыніць беларускую школу ў Малькавічах?

Варшава, 20 студзеня 1925 г.

